**№186 (1999)**
Аўторак, 5 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +9...+11, уначы — +9...+1, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +14...+16, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +11...+13, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +9...+11, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +10...+12, сонечна, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +9...+11, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*

**СКАНДАЛ**

## Валянціна Палевікова ўступіла ў бойку з міліцыянтамі за свае ўлёткі

*Апошніх нават не спыніла прысутнасць назіральнікаў ад АБСЕ*

Позна вечарам 1 кастрычніка ў кватэру, якая выкарыстоўваецца як перадвыбарны штаб кандыдатаў у дэпутаты ад АГП **Валянціны Палевіковай і Аляксандра Дабравольскага**, наведаліся міліцыянты.

— *Яны трапілі ў кватэру пад выглядам супрацоўнікаў камунальных служб,* — расказвае Валянціна Палевікова. — *Патэлефанавалі ў дамафон і сказалі, што ў кватэры быццам бы нешта працякае.*

*Гэтая кватэра належыць Марыі Аліевай — маёй даверанай асобе, кіраўніку Беларускай арганізацыі працоўных жанчын. Час ад часу мы там збіраемся, захоўваем перадвыбарныя ўлёткі.*

*Калі я прыехала, то ў кватэры ўжо сядзелі тры супрацоўнікі міліцыі і чалавек у цывільным. Ён звязваўся з кімсьці па рацыі і даваў загады канфіскоўваць нашу прадукцыю. Дарэчы, і мае ўлёткі, і ўлёткі Дабравольскага аддрукаваны законна і легальна за грошы Цэнтрвыбаркама.*

*Я прад'явіла рэгістрацыйнае пасведчанне кандыдата ў дэпутаты, усе патрэбныя накладныя на ўлёткі і дамову на распаўсюджванне газеты "Неделя", наклад якой знаходзіўся ў кватэры і таксама быў канфіскаваны.*

*І я, і Аляксандр Дабравольскі, які прыехаў крыху пазней, патрабавалі растлумачыць, на якой падставе адбываеццаператрус у кватэры — калі гэта вобыск, то павінна быць санкцыя. Нам нічога не адказалі, заўважылі толькі, што складаецца пратакол.*

*Праз некаторы час чалавек у цывільным выклікаў узмацненне, і ў кватэры было ўжо чалавек 10 міліцыянтаў. Зразумела, што ў іх быў загад забраць усю прадукцыю. Магчыма, прычынай прыезду міліцыі стала газета "Неделя". На апошняй старонцы газеты былі змешчаны карыкатуры, персанажы якіх нагадвалі сённяшніх беларускіх дзяржаўных дзеячаў.*

*Міліцыянты вынеслі з кватэры ўсе ўлёткі Аляксандра Дабравольскага і частку ўлётак, якія належалі мне. Справа ў тым, што амаль увесь наклад маіх улётак ляжаў у самым дальнім пакоі, дзе знаходзіліся прадстаўнікі АБСЕ, якіх мы паспелі выклікаць. Калі міліцыянты паспрабавалі туды зайсці, я і мае давераныя асобы — а гэта выключна жанчыны — паўсталі перад імі. Завязалася бойка. Міліцыянты піхалі жанчын, але мы выстаялі.*

*Прадстаўнікі АБСЕ былі ў шоку, такога яны яшчэ не бачылі".*

Падчас змагання за ўлёткі Валянціна Палевікова змагла датэлефанавацца да кіраўніка Цэнтрвыбаркама **Лідзіі Ярмошынай**. Кандыдат у дэпутаты папрасіла Ярмошыну паўплываць на тое, каб спыніць процізаконныя дзеянні, якія адбываюцца ў кватэры Марыі Аліевай. Лідзія Міхайлаўна паабяцала пазваніць міністру ўнутраных спраў... А тым часам канфіскаваную прадукцыю згрузілі ў машыну, якая стаяла побач з пад'ездам.

Валянціна Палевікова і Аляксандр Дабравольскі ўжо абскардзілі дзеянні міліцыі ў свае акруговыя камісіі, у Цэнтрвыбаркам і ў пракуратуру. Аднак у панядзелак раніцай рэакцыі з боку гэтых устаноў яшчэ не было. Невядома, дзе знаходзяцца і ўлёткі Аляксандра Дабравольскага. "Ён увогуле не можа праводзіць агітацыю, — кажа Валянціна Палевікова. — А да выбараў засталося менш за два тыдні".

**Марыя ЭЙСМАНТ.**
**Фота photo.bymedia.net**

## Пасольства Польшчы асуджае артыкул у штотыднёвіку «7 дней»

Пасольства Польшчы ў Беларусі асуджае артыкул "Уроки польского в Ираке, или При чем тут референдум?", апублікаваны ў беларускім штотыднёвіку "7 дней" 30 верасня. У артыкуле ўтрымліваецца шмат крытычных выказванняў з нагоды прысутнасці польскіх салдат у Іраку.

"Мы нікому не забараняем выказваць свае крытычныя заўвагі, бо кожны мае права на ўласную ацэнку падзей, што адбываюцца", — гаворыцца ў афіцыйнай інфармацыі, распаўсюджанай 1 кастрычніка польскім пасольствам. Аднак, падкрэсліваецца ў паведамленні пасольства, аўтар артыкула "без аніякага сораму ганьбуе пачуцці ўсіх палякаў"; польскія салдаты, якія праходзяць службу ў міжнародных фарміраваннях, у артыкуле параўноўваюцца з акупантамі і наймітамі.

"Падобныя шавіністычныя выпады зусім непрымальныя ў краіне, дзе ганарацца сваёй талерантнасцю і павагай адзін да аднаго", — зазначана ў паведамленні.

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Страмкоўская змагаецца за Марыніча

Адвакат Вера Страмкоўская падала ў Мінскую абласную пракуратуру скаргу аб спыненні крымінальнага пераследу вядомага беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча Міхаіла Марыніча па ўсіх прад'ўленых абвінавачваннях.

Як паведаміла БелаПАН В.Страмкоўская, яна просіць пракуратуру вызваліць Марыніча з-пад варты ў сувязі з невінаватасцю і дрэнным станам здароўя. Да скаргі дадаецца заключэнне судова-медыцынскай экспертызы аб стане здароўя палітыка, якое было атрымана яшчэ летам. "З таго часу стан здароўя Міхаіла Афанасьевіча пагоршыўся", — сказала В.Страмкоўская.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

## Гродно — Вандея свободы слова?

*Завершился судебный процесс в отношении главного редактора газеты «Биржа информации» Елены Равбецкой*

***Как уже сообщалось, в городе над Неманом состоялся очередной судебный процесс. В отличие от других разбирательств такого рода никого не отправили в ссылку, не посадили за решетку, не арестовали тираж газеты. На этот раз Ленинский районный суд Гродно ограничился полутoрамиллионным штрафом в отношении Елены Равбецкой.***

***Что же натворила эта всегда спокойная женщина, опытный журналист и руководитель уважаемого в области издания? Дело в том, что она несколько преждевременно ответила на вопрос, вынесенный на референдум: "Разрешаете ли вы первому президенту Республики Беларусь Лукашенко А.Г. участвовать в качестве кандидата в президенты?..". Ответила прямо и однозначно: нет, не разрешаю!***

### Можно ли говорить «нет»?

Можно. Это разрешают законы Республики Беларусь. В частности, статьи 65 и 76 Конституции и соответствующие статьи Избирательного кодекса предусматривают, что вопрос о своем участии в выборах и референдуме граждане решают самостоятельно, т.е. вправе сделать свободный выбор, а равно публично высказывать свое мнение "за" и "против". Что и сделала Е.Равбецкая в виде небольшой газетной статьи, а точнее, заметки. В ней она довольно-таки эмоционально, как и полагается творческому человеку, объяснила, почему считает назначение референдума незаконным.

Но гродненские стражи законности решили по-иному. Автора заметки "пригласили" в Ленинскую районную прокуратуру, где объявили, что в публикации усматривают состав административного правонарушения, предусмотренный ч.10 ст.172-1 Кодекса об административных правонарушениях, а именно: распространение средствами массовой информации заведомо ложных сведений, порочащих честь и достоинство президента Республики Беларусь.

16 сентября прокуратура завела на Е.Равбецкую административное дело, 29 состоялся суд, а 30 — вынесено решение.

### Суд и прокуратура — едины?

Дело Е.Л.Равбецкой рассматривала судья Н.Г.Козел. С самого начала она отказала в допуске на судебный процесс большинству желающих, сославшись на тесноту своего кабинета. А их было много: гродненские журналисты и правозащитники, коллеги из других регионов, представители общественных организаций, в том числе и от Белорусской ассоциации журналистов. Они остались ожидать решения суда за дверью кабинета судьи и на пороге здания суда. Ожидание было недолгим: судебное разбирательство длилось не более полутора часов.

Первой к "барьеру" была вызвана виновница судебного процесса Елена Равбецкая. Она поведала предысторию возникновения этого странного дела и привела аргументы своей невиновности в инкриминируемом ей правонарушении. По ее мнению, никаких сведений, тем более заведомо ложных и позорящих, в публикации не имеется, если не считать упоминания о нескольких общеизвестных фактах: в 1994 году при вступлении в должность президента А.Лукашенко поклялся соблюдать Конституцию; в 1996 году по его инициативе Конституция была радикально изменена; в 2004 году он назначает очередной референдум по внесению поправок в Конституцию. Опираясь на указанные факты, она и высказала свое несогласие с принятым главой государства решением.

Выступившие в судебном процессе свидетели журналисты Н.Макушина и Н.Маркевич подтвердили допустимость высказываний личной позиции в виде мнений, суждений, предположений по любым вопросам государственной и общественной жизни. На это же обстоятельство обратили внимание суда представитель ОО "Белорусская ассоциация журналистов" М.Пастухов и адвокат А.Бирилов.

Несмотря на очевидность того, что в публикации Е.Равбецкой не было сведений, могущих кого-либо опорочить, судья Н.Г.Козел в своих вопросах к участникам процесса постоянно "ошибалась", спрашивая именно о распространении сведений.

А может, и не было никакой ошибки в вопросах судьи? Скорее всего проводилась единая прокурорско-судебная линия на обвинение Е.Равбецкой. Во всяком случае такое впечатление сложилось как у участников процесса, так и у присутствующих на суде.

В то же время, когда адвокат заявил ходатайство о проведении по делу экспертизы на предмет наличия в тексте публикации каких-либо порочащих сведений, судья тут же его отклонила. Почему?..

На наш взгляд, по той причине, что независимые эксперты ничего крамольного в высказываниях Е.Равбецкой не обнаружили бы. И, что немаловажно, на проведение исследования потребовалось бы время, а там, смотришь, и референдум уже завершился бы. Вместо "примерного" наказания смелую журналистку пришлось бы оправдать.

Недоумение у присутствующих вызвало также решение судьи прервать судебный процесс и перенести его на следующий день. Между тем еще оставалось более двух часов рабочего времени, которого вполне бы хватило на подготовку и оглашение решения.

Такая практика переноса судебных решений "на следующий день" становится привычной. В чем же дело? Почему судьям, когда в деле все предельно ясно, так необходимы вечер, ночь и утро для принятия окончательного решения? Почему тайна "совещания судей" растягивается на столь длительный срок?

Перенос судебного разбирательства по этому простому делу насторожил участников процесса и присутствующих. Как оказалось, не напрасно ...

### Судья Козел считает...

При оглашении решения 30 сентября оправдались самые худшие ожидания: судья Н.Г.Козел признала главного редактора газеты "Биржа информации" Елену Равбецкую виновной в распространении заведомо ложных сведений, порочащих честь и достоинство президента Республики Беларусь, и подвергла ее штрафу в размере 70 базовых величин, или на 1 миллион 330 тысяч рублей.

Какие же доказательства вины Равбецкой нашла судья Козел?

Одно из основных доказательств, положенных в основу решения суда, воспроизведем дословно, без правок: "Из анализа содержания статьи *"Предательство именем народа" явствует, что в ней действительно заведомо ложные сведения относительно назначенного к проведению референдума, которое не соответствует и не отражает законное основание назначенного в соответствии со ст.84 Конституции Республики Беларусь референдума, называя референдум" — "вызовом обществу" с указанием на "отсутствие совести", тем самым распространяя заведомо ложные сведения, порочащие честь и достоинство Президента Республики Беларусь".*

Данная формулировка требует отдельного юридического анализа. Во-первых, следует отметить, что в постановлении прокуратуры о возбуждении административного дела Е.Равбецкая не обвиняется в распространении "заведомо ложных сведений относительно назначенного к проведению референдума ...".

В этой связи уместно будет еще раз повторить: в публикации речь шла не о референдуме, а о личном отношении Е.Равбецкой как гражданина к решению главы государства о назначении референдума. Она посчитала его недопустимым и расценила как "вызов обществу".

Во-вторых, судья Н.Г.Козел в своем решении продолжает утверждать, что имело место именно "распространение заведомо ложных сведений..." и что якобы опубликованная информация "...не отражает законное основание назначенного в соответствии со ст.84 Конституции Республики Беларусь референдума...".

По нашему мнению, сформулировав "вину" Равбецкой подобным образом, судья Козел попала в своеобразную юридическую ловушку. Судите сами. После 7 сентября 2004 года вышли десятки публикаций, в которых известные юристы убедительно доказали, что назначение референдума по вопросу, связанному с участием А.Лукашенко в очередных президентских выборах, противоречит Конституции и законодательству о референдуме. Трудно представить, что судья не знакома хотя бы с одной из таких публикаций.

В упомянутой "ловушке" есть еще одна юридическая тонкость, о которой все судьи обязаны знать в обязательном порядке. В ст.112 Конституции сказано: если при рассмотрении конкретного дела суд придет к выводу о несоответствии нормативного акта Конституции, он принимает решение в соответствии с Конституцией и ставит вопрос о признании данного нормативного акта неконституционным.

При рассмотрении дела в суде возникал вопрос о конституционности президентского указа о назначении референдума. Следовательно, в целях выяснения всех обстоятельств дела (для чего, собственно, и существует суд) судья должна была поставить перед вышестоящими судебными инстанциями вопрос о конституционности указа. Тогда бы, при соблюдении определенной процедуры, данный указ мог стать предметом рассмотрения в Конституционном суде.

Между тем в своем постановлении от 30 сентября с.г. судья Н.Г.Козел без учета существующей процедуры единолично решила вопрос о конституционности назначенного референдума. То есть она взяла на себя полномочия Конституционного суда, который только один полномочен решать подобные коллизии.

Что касается объяснений Е.Равбецкой, а также объяснений свидетелей Н.Маркевича и Н.Макушиной, то судья Н.Г.Козел отвергла их как надуманные и необъективные. Но позвольте спросить: почему? С каких это пор ссылки на конкретные положения законов, профессиональное понимание журналистских обязанностей стали считаться "надуманными" и "необъективными"?

Впрочем, задавать эти риторические вопросы бесполезно. Наша судебная практика все больше убеждает в том, что определяющим критерием при разрешении споров между независимыми изданиями и властью являются не столько законы, сколько пресловутая целесообразность. К чему приводит подобная практика, мы знаем из истории.

* * *

Трудно объяснить, почему именно город Гродно превратился в место "показательных" судебных процессов над свободой слова. Печальный счет судебным репрессиям открыли журналисты газеты "Пагоня" Н.Маркевич и П.Можейко. В нынешнем году осуждены к лишению свободы за словесное посягательство на честь и достоинство президента активист предпринимательского движения В.Леваневский и его коллега, офицер запаса А.Васильев. В этом ряду следует учесть и тех журналистов, кто осмелился выйти на улицы с протестом против действий властей, и был подвергнут мерам административного воздействия.

Судебный процесс над Еленой Равбецкой, а значит, и над газетой "Биржа информации", стал логичным продолжением печальной закономерности, наблюдаемой в самом западном регионе нашей страны.

Чего добиваются власти этого свободолюбивого города? Неужели хотят превратить Гродно в Вандею свободы слова?

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**Юрий ТОПОРАШЕВ,**
**эксперты Центра правовой защиты СМИ при ОО "Белорусская ассоциация журналистов".**

## Радыё Свабода

www.svaboda.org

**Новы расклад**
(панядзелак – субота)

| | |
|---|---|
| 07:00–08:00 | Новы дзень |
| 18:00 | Падзеі дня |
| 18:30 | Тэматычныя перадачы |
| 19:00 | Падзеі дня |
| 19:30 | Тэматычныя перадачы |
| 20:00 | Падзеі дня |
| 20:30 | Тэматычныя перадачы |
| 21:00 | Вынікі дня |
| 21:30 | Тэматычныя перадачы |
| 22:00 | Вынікі дня |
| 22:30 | Тэматычныя перадачы |
| 23:00 | Вынікі дня |
| 23:30 | Тэматычныя перадачы |
| 06:00 | Вынікі дня (паўтор 23:00) |
| 06:30 | Тэматычныя перадачы |

Падзеі дня ў жывым эфіры, выпускі навінаў – кожныя 15 мінут, у нядзелю – тэматычныя перадачы на кароткіх і сярэдніх хвалях і ў інтэрнэце

**Выбірайце «Свабоду»!**

## Раманчука «пракінулі» канчаткова

*Вярхоўны суд адхіліў іск намесніка старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Яраслава Раманчука на неабгрунтаванае адмаўленне ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.*

Палітык балатаваўся ў парламент па Паўночнай выбарчай акрузе №53 у Гродне. Падставай для адмаўлення ў рэгістрацыі прэтэндэнта стала прадастаўленне ім у акруговую камісію быццам недакладных звестак аб даходах за 2003 год. У прыватнасці, на думку членаў камісіі, Я.Раманчук не ўказаў у дэкларацыі даход, атрыманы ад продажу аўтамабіля.

Сам прэтэндэнт факт продажу аўтамабіля не адмаўляе, аднак, паводле яго слоў, гэтая здзелка адбылася не ў 2003 годзе, за які неабходна прадаставіць дэкларацыю, а ў снежні 2002. Свае тлумачэнні палітык пацвердзіў дакументам куплі-продажу.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**СЛЫШАЛИ?**

## Бундестаг одобрил проект резолюции по Беларуси, подготовленный фракцией СДПГ/«Зеленые»

*На пленуме бундестага — парламента ФРГ — большинством голосов одобрен проект резолюции по Беларуси, вынесенный коалиционной фракцией Социал-демократической партии Германии (СДПГ) и Партии "зеленых".*

В нем содержится призыв к "честным и транспарентным выборам в Беларуси", а также к оказанию помощи в "смене белорусской власти на демократическую". В резолюции официальному Берлину рекомендовано "активнее поддерживать оппозиционные партии, независимые СМИ и правозащитные организации Беларуси", способствовать освобождению осужденных по политическим мотивам и прекращению давления на оппозицию.

**БелаПАН.**

**ОВАЛЬНЫЙ ЗАЛ**

***Иван ПАШКЕВИЧ:***

## «Многие депутаты предпочитают временно не высовываться...»

***Вчера открылась девятая сессия Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.***

В первой половине дня ни скандалов, ни бурных дебатов по поводу бюджета на 2005 год в Овальном зале не было. Все прошло тихо и спокойно. Как всегда. Депутаты согласились с предложенной повесткой дня сессии. Спели гимн (вслух подпевала только **Галина Мазуркевич**, хором гимн парламентарии еще ни разу не исполняли).

В своем выступлении председатель Палаты представителей **Вадим Попов** напомнил, что в нынешнем году депутаты утвердили программу деятельности правительства. И благодаря ее реализации жизнь в стране стала гораздо лучше: значительно сократилась инфляция, выросли реальные денежные доходы населения, зарплата, пенсии, вклады населения.

*"Я думаю, реальные дела — достойный ответ нашим злопыхателям. Они служат хорошими аргументами для поддержки нашего президента Александра Лукашенко на референдуме"*, — подытожил Попов.

Стоит отметить, что во время официального слова Попова некоторые депутаты почему-то покинули зал. А отдельные представители дипломатического корпуса сладко задремали...

Встряхнуть Палату представителей попытался **Виктор Кучинский.** Он предложил принять законопроект о бюджете на следующий год без обсуждений и тотчас же разъехаться по избирательным округам. Никто в зале даже не засмеялся. Лишь дипломаты, удивленно переглянувшись, заметили: *"Ну разве такое бывает? Как можно бюджет принять за пару минут, без обсуждений?"*

Кучинского не поддержали. Хотя многие депутаты признают, что они абсолютно не могут повлиять на формирование бюджета.

*"Законопроект о бюджете прошел согласование в местных органах власти, в Совмине, у президента,* — отметил в интервью "Народной воле" депутат **Иван Пашкевич.** — *На этой стадии вмешательство депутатского корпуса с какими-то поправками или замечаниями уже невозможно. И если кто-то из депутатов пытается что-то скорректировать, то ему говорят: мол, все это нужно было делать несколько месяцев назад, до согласования наверху. За всю историю деятельности Палаты представителей лишь однажды аграрии не согласились с указанными цифрами. И депутаты их поддержали. Но уже на второй день сами были не рады своей инициативности..."*

По словам Ивана Пашкевича, депутаты не поддержали предложение Кучинского потому, что не хотят проблем в разгар избирательной кампании.

*"Как известно, 56 человек из нынешней Палаты представителей баллотируются в новый парламент,* — говорит Иван Иванович. — *Нынешняя избирательная кампания — крайне жесткая. Я могу сравнивать, потому что в третий раз иду в депутаты. Более жесткого противостояния, которое оказывается со стороны местных властей, а не оппонентов по округу, я еще не встречал. И многие депутаты считают, что задавать правительству неудобные вопросы о бюджете на будущий год — это навредить себе. Поэтому многие предпочитают временно не высовываться".*

Законопроект о бюджете презентовал министр финансов Беларуси **Николай Корбут**. Он же рассказал и о внесении дополнений и изменений в некоторые законодательные акты по вопросам налогообложения.

Корбут говорил монотонно, и слушали его не все. Едва Николай Петрович поднялся на трибуну, как зал снова покинули некоторые депутаты, а также присутствовавшие на открытии сессии преседатель Конституционного суда **Григорий Василевич** и председатель Центризбиркома **Лидия Ермошина**.

...Вновь избранные депутаты соберутся в Овальном зале скорее всего лишь в конце ноября. Вначале они должны будут "разобрать портфели": выбрать председателя Палаты представителей, его заместителя, председателей комиссий. Времени на раскачку и на принятие новых законопроектов будет не так уж и много: закрывается сессия уже в декабре...

**Марина КОКТЫШ.**

### К сведению

Как сообщает БелаПАН, доходная часть консолидированного бюджета 2005 года определена в размере 18,3 трлн. рублей, а с учетом внебюджетных фондов — 25,9 трлн. рублей.

Основными источниками доходных поступлений в 2005 году станут налог на добавленную стоимость (30,6 %), налоги на доходы и прибыль (13,1 %), подоходный налог (11,8 %), доходы от внешней торговли и внешнеэкономических операций (9,5 %), акцизы (8,1 %) и чрезвычайный налог (2,4 %).

В состав республиканского бюджета, как и в 2004 году, включен фонд социальной защиты населения (6,7 трлн. рублей) и инвестиционный фонд (897 млрд.).

Расходы бюджета 2005 года определены в объеме 19,2 трлн. рублей. Дефицит бюджета составил 910 млрд. рублей, или полтора процента от ВВП. Покрывать дефицитный бюджет планируется за счет выпуска ценных бумаг, а также за счет средств, полученных от реализации государственного имущества. Это, по оценке Минфина, позволит получить 386,3 млрд. рублей. Еще 523,7 млрд. правительство рассчитывает привлечь из-за рубежа.

Корбут говорит, что бюджет 2005 года сохранит социальную направленность. В частности, на социальную сферу планируется выделить 65,7% от общей суммы расходной части бюджета.

На 30%, по сравнению с 2004 годом, увеличатся расходы на заработную плату. Предусмотренные расходы обеспечат повышение зарплаты работникам бюджетной сферы к концу 2005 года до 220—225 долларов США в эквиваленте.

СТОП-КАДР




Фота photo.bymedia.net

ПУЛЬС

## Трэцяя гарадская клінічная бальніца ў Мінску будзе рэканструявана

У адпаведнасці з рашэннем Мінскага гарвыканкама бальніца перададзена ў веданне ўпраўлення капітальнага будаўніцтва гарвыканкама. Яму даручана паралельнае і паэтапнае правядзенне праектна-вышукальных і будаўніча-мантажных работ па рэканструкцыі зрокавага, тэрапеўтычнага, лабараторнага карпусоў і інжынерных сетак лячэбна-прафілактычнай установы, а таксама добраўпарадкаванне прылеглай да яго тэрыторыі. Генеральны план рэканструкцыі бальніцы даручана распрацаваць адкрытаму акцыянернаму таварыству "Інстытут Мінскграмадзянскпраект", будаўніча-мантажныя работы будуць выконваць спецыялісты вытворчага канцэрна "Мінскбуд".

Усе работы на гэтым аб'екце аховы здароўя павінны быць завершаны да ліпеня 2005 года.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Вытворчасць тэлевізараў узрасла амаль удвая

Паводле звестак статыстыкі, аб'ём вытворчасці прадукцыі на прадпрыемствах машынабудавання і металаапрацоўкі Беларусі за 8 месяцаў 2004 года склаў 121,7 працэнта да ўзроўню аналагічнага перыяду мінулага года. Найбольш высокія тэмпы росту адзначаны ў вытворчасці тэлевізараў. Іх выраблена 759 тыс. штук, што на 86,4 працэнта больш, чым за такі ж перыяд мінулага года. Толькі ў жніўні тэлевізійныя прадпрыемствы Беларусі выпусцілі 115 тыс. тэлеапаратаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Беларуска працягне ўдзел у «Народным артысце-2»

У эфіры канала АНТ прайшло выступленне першай дзесяткі фіналістаў праекта, куды ўвайшлі тры прадстаўнікі Беларусі, — Вячаслаў Лышчык, Яўген Чалышаў і Таццяна Казючыц. Пасля эфіру адбылося галасаванне гледачоў у трох краінах — Беларусі, Расіі і Украіне, дзе ідзе шоу. Цікава, што ў сваіх прагнозах, за каго прагаласуюць гледачы, члены журы (спявачка Лайма Вайкуле, рэжысёр Тыгран Кеасаян, прадзюсер і кампазітар Кім Брэйтбург, журналіст Артур Гаспаран) часцей за ўсё згадвалі Таццяну Казючыц і Вячаслава Лышчыка. У выніку стала вядома, што з беларусаў у тройку шчаслівчыкаў трапіла толькі Т.Казючыц, за якую было аддадзена 14,1 працэнта галасоў. Другое месца дасталося Дзіляры Вагапавай (Казань) — 14,4 працэнта, першае Уладзіславу Шлыкаву (Паўлаград) — 15,3 працэнта.

8 кастрычніка ў эфіры АНТ можна будзе ўбачыць выступленне другой дзесяткі ўдзельнікаў праекта.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Амаль два мільёны чалавек маюць мабільнікі

Колькасць карыстальнікаў мабільнай сувяззю ў Беларусі перавысіць 2 млн. у найбліжэйшыя дні, прагназуюць спецыялісты. На 1 кастрычніка іх налічвалася больш за 1 млн. 994 тысячы.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## ЖЗЛ!

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" плануе выпуск шэрагу выданняў з серый "Жыццё знакамітых людзей" і "Зямля мая". Пра гэта паведаміў галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Праўдзін.

Паводле яго слоў, у серыі "Жыццё знакамітых людзей" запланавана выданне кніг, прысвечаных класіку нацыянальнай літаратуры Уладзіміру Караткевічу і народнаму мастаку Беларусі Яўгену Чамадураву, вядомаму сваімі тэатральнымі дэкарацыямі і касцюмамі.

Як адзначыў В.Праўдзін, пачатак гэтай серыі, заснаванай сёлета, паклалі кнігі, прысвечаныя вядомым дзеячам беларускай культуры — музыканту, народнаму артысту СССР Уладзіміру Мулявіну і кінарэжысёру, народнаму артысту Беларусі Міхаілу Пташуку. "У жніўні гэтага года на І Міжнародным конкурсе ў Маскве гэтыя выданні атрымалі першую прэмію ў намінацыі "Наш сучаснік", — сказаў В.Праўдзін.

## Выстава графікі ў Мінску

У мастацкай галерэі Інстытута Гётэ ў Мінску адкрылася выстава 11 выпускнікоў і студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Дзякуючы падтрымцы Германскай службы акадэмічных абменаў яны разам са сваім кіраўніком — прафесарам, загадчыкам кафедры графікі БДАМ Уладзімірам Савічам у 2003 годзе наведалі Мастацкую акадэмію Мюнстэра.

Беларускі графік Рыгор Сітніца зазначыў, што ўзровень беларускай мастацкай адукацыі з'яўляецца адным з лепшых у Еўропе. "Захаваўшы акадэмічную школу і нацыянальны светапогляд, айчынныя мастакі дасягнулі значных поспехаў, аб чым сведчаць Гран-пры на многіх еўрапейскіх конкурсах кніжнай і станкавай графікі", — сказаў Р.Сітніца.

**Марат ГАРАВЫ.**

ЗЕРКАЛО

# Третий срок президента Лукашенко: «за« и »против»

В Восточной Европе опять кипят страсти. В России начинается кардинальная реформа политической системы. В Литве скоро состоятся парламентские, а в Украине — президентские выборы. В Беларуси 17 октября пройдут парламентские выборы, которые будут совмещены с конституционным референдумом. На голосование выносится вопрос: **"Разрешаете ли Вы первому Президенту Республики Беларусь А.Г. Лукашенко участвовать в качестве кандидата в Президенты Республики Беларусь на выборах Президента и принимаете ли часть первую статьи 81 Конституции Республики Беларусь в следующей редакции: "Президент избирается на пять лет непосредственно народом Республики Беларусь на основании всеобщего, свободного, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании?"** Ясно, что от итогов референдума будет зависеть развитие Беларуси на весьма длительную перспективу. И, вероятно, не только Беларуси. Победа действующего президента неизбежно окажет влияние на другие страны СНГ, поскольку создаст новый прецедент — ведь еще ни один глава государства в европейских странах бывшего СССР не изменял Конституцию, снимая ограничения на свое переизбрание. Поэтому конституционный референдум привлекает большое внимание не только в самой Беларуси, но и в других странах.

Какими бы ни были внешние факторы, влияющие на развитие той или иной страны, решающий голос принадлежит ее гражданам. С какими настроениями подходят белорусы к предстоящему референдуму? Как собираются голосовать? Власти, разумеется, говорят о тотальной поддержке своего курса. Оппозиция, наоборот, заявляет о его полном отторжении. Истинный ответ можно получить, лишь обратившись к мнению самого народа.

The Gallup Organization/Baltic Surveys, представляющая ведущую международную сеть, которая проводит опросы общественного мнения по всему миру уже не одно десятилетие, в течение последнего времени постоянно проводит исследования в соседней Беларуси. Поскольку о возможности проведения конституционного референдума здесь заговорили почти сразу после последних президентских выборов три года назад, мы уделяли этой теме особое внимание. Вот как выглядит динамика общественного мнения по этому вопросу за последние полтора года (для большей убедительности приводим также результаты аналогичных опросов, проводимых белорусским Независимым институтом социально-экономических и политических исследований, имеющим безупречную профессиональную репутацию на международном уровне):

**Таблица 1. Готовность голосовать на референдуме за изменение Конституции Республики Беларусь так, чтобы А. Лукашенко смог избираться президентом в третий раз, % ***

| Вариант ответа | 03'03 | 06'03 | 09'03 | 03'04 | 05'04 | 06'04 | 07'04 | 08'04 | 09'04 | 10'04 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Однозначно за | 17.1 | 9.0 | 22.6 | 24.9 | 9.1 | 35.2 | 17.2 | 11.7 | 16.2 | 39.0 |
| Скорее за | | 16.4 | | | 17.2 | | 21.0 | 18.4 | 19.5 | |
| Скорее против | **47.0** | 24.8 | 51.8 | **47.8** | **24.8** | **50.9** | **22.7** | **17.2** | **15.3** | **32.5** |
| Однозначно против | | 40.7 | | | **34.1** | | **31.9** | **32.6** | **29.1** | |
| Еще не решил | 27.5 | — | 20.8 | 22.4 | — | — | — | 15.0 | 15.7 | 20.5 |
| ЗО/НО | 8.4 | 9.2 | 4.8 | 4.9 | 14.7 | 13.9 | 7.2 | 5.1 | 4.2 | 5.0 |

** По данным национальных опросов общественного мнения, проведенных The Gallup Organization/Baltic Surveys и НИСЭПИ (его данные заштрихованы). Во всех случаях методом face-to-face interview опрашивалось по 1500 человек в возрасте 18 лет и старше, в августе и сентябре методом tracking poll опрашивалось по 3000 человек (предельная ошибка репрезентативности не превышала 0.03), в конце сентября — начале октября опрошено 400 человек (предельная ошибка репрезентативности не превышала 0.05). В некоторых опросах варианты вопросов и ответов различались по нюансам (например, степени готовности), которые принципиально не меняют общую картину.*

Как видно, вплоть до изменения формулировки вопроса (в последнем опросе респондентам предлагалось ответить на вопрос, вынесенный на референдум самим Александром Лукашенко) соотношение ответов "за" и "против" третьего срока было не в пользу президента, хотя за эти полтора года число его противников заметно уменьшилось, а сторонников возросло: на конец сентября 35,7% "за" и 44,4% "против". Насколько самое последнее изменение общественного мнения вызвано объективными (ростом благосостояния граждан, политической стабильностью и др.) или субъективными (формулировкой вопроса, официальной пропагандой и пр.) причинами? Чтобы ответить на этот вопрос, посмотрим на динамику отношения белорусов к самому президенту, к тому, как он руководит страной.

**Таблица 2. Считаете ли Вы, что А. Лукашенко в целом достаточно хорошо руководит страной и его следует вновь избрать президентом на следующих выборах, либо кто-то другой должен занять этот пост и получить возможность сделать это лучше него? %**

| Вариант ответа | 03 '03 | 06 '03 | 09 '03 | 11 '03 | 03 '04 | 05 '04 | 06 '04 | 07 '04 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вновь избрать А.Лукашенко | 23.2 | 23.9 | 28.3 | 27.3 | 30.7 | 28.8 | 30.3 | 37.5 |
| Кто-то другой должен занять этот пост | 64.1 | 64.0 | 61.1 | 60.4 | 54.4 | 56.8 | 57.4 | 53.7 |
| ЗО/НО | 12.7 | 12.1 | 10.6 | 12.4 | 14.9 | 15.2 | 12.3 | 8.8 |

Как видно, хотя положительная динамика вполне заметна, в целом соотношение сторонников и противников переизбрания президента Лукашенко на новый срок явно не в его пользу. На прямой вопрос (который в нашем последнем опросе следовал за вопросом референдума) "Если А. Лукашенко будет участвовать в выборах в президенты Республики Беларусь, за кого вы будете голосовать — за него или за другого кандидата?" получены следующие ответы.

**Таблица 3. Готовность голосовать за А. Лукашенко на новых президентских выборах**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Буду голосовать за А. Лукашенко | 34.5 |
| Буду голосовать за другого кандидата | **31.5** |
| Еще не определился | **23.9** |
| Не буду голосовать | 3.0 |
| ЗО/НО | **8.0** |

На этом основании можно с высокой степенью вероятности утверждать, что последнее изменение отношения к изменению Конституции вызвано скорее всего субъективными причинами и не отражает глубоких изменений в общественном мнении.

Какой же прогноз можно сделать на предстоящий 17 октября референдум? Проголосуют белорусы "за" изменение Конституции, снимающее ограничения для переизбрания А. Лукашенко президентом Республики Беларусь, или "против"?

Согласно Избирательному кодексу Республики Беларусь, решение на Конституционном референдуме считается принятым, если за него проголосовало две трети от зарегистрированных избирателей. Каждый читатель может легко определить количество голосов, необходимых для того, чтобы Александр Лукашенко получил возможность избираться президентом неограниченное количество раз. По официальным данным Центральной избирательной комиссии, в Республике Беларусь зарегистрировано примерно 7 миллионов избирателей. Значит, чтобы "получить разрешение белорусского народа", президент должен получить не менее 4.662.000 голосов "за" за вынесенный на голосование вопрос. Согласно результатам последних опросов, хотя лишь 26.3% респондентов считают, что "выборы будут полностью свободными и справедливыми" (35.3% — "в некоторой степени свободными и справедливыми", почти 30% — "выборы не будут свободными и справедливыми"), голосовать 17 октября собираются (с разной степенью готовности) около 75%, т.е. 5.250.000 избирателей. Очевидно, что 39% опрошенных, готовых голосовать "за" на референдуме, недостаточно для победы, поскольку они составляют только 2.730.000 человек. Поэтому основная борьба ведется за тех, кто пока не определился, — 25.5% избирателей (тех, кто "еще не определился" и "затруднился ответить", а 3% сказали, что вообще "не будут голосовать"), т.е. 1.785.000 человек. Если президент получит все эти голоса, он может выиграть референдум. Но может ли он на них рассчитывать? С абсолютной уверенностью можно сказать, что нет.

Во-первых, потому, что, как показывает международная практика, голоса неопределившихся избирателей, пришедших на участки, чаще всего раскладываются примерно так же, как и голоса тех, кто уже принял решение. Большинство неопределившихся, как правило, следует за большинством определившихся. Но у президента сегодня нет абсолютного большинства: 39% против 32.5%. Во-вторых, анализ социально-политических установок неопределившихся показывает, что по важнейшим параметрам многие из них не поддерживают нынешний курс и его главного вдохновителя. Так, если А. Лукашенко станет участвовать в выборах в президенты еще раз, лишь 17.6% не определившихся по голосованию на референдуме проголосуют "за", столько же проголосуют "против", а 65% еще не определились или затруднились ответить. Только 53% не определившихся по референдуму считают, что "в целом положение вещей в нашей стране развивается в правильном направлении", остальные либо убеждены в обратном, либо затруднились ответить. Только 49% не определившихся по референдуму считают, что "сегодня Беларусь не находится в экономическом кризисе", остальные также убеждены в обратном либо затруднились ответить. Это позволяет утверждать, что из 25.5% неопределившихся на референдуме проголосует "за" примерно половина, т.е. не более миллиона избирателей. Как видно, простой арифметический расчет показывает, что даже с учетом этих голосов на референдуме проголосуют "за" на миллион меньше, чем нужно для победы президента — около 3.700.000 человек. Где же взять почти миллион дополнительных голосов? Даже если на выборы и референдум придет не 75%, а 90% избирателей, президент все равно не сможет победить, поскольку среди тех, кто не собирается голосовать, преобладают его противники, а не сторонники. Выхода два: либо переубедить часть своих противников и убедить всех неопределившихся, что практически нереально за оставшиеся две недели, либо "перераспределить" голоса избирателей в свою пользу. Поскольку речь идет почти о миллионе голосов, совершенно ясно, что массового "перераспределения" голосов не избежать. Насколько аппарат государственной власти готов это осуществить и насколько белорусский народ готов с этим примириться, мы судить не беремся. Но ждать ответа осталось недолго.

**The Gallup Organization/Baltic Surveys (Вильнюс).**

НАЕЗД

# Як віцебская міліцыя парушыла вакзальны сон Валерыя Шчукіна

*1 кастрычніка цывілізаваны свет адзначыў Міжнародны дзень пажылых людзей. З гэтай нагоды германская амбасада ў Мінску ладзіла прыём, на які быў запрошаны і вядомы палітык, непахісны апанент рэжыму Валерый Аляксеевіч Шчукін — чалавек, дарэчы, паважанага ўзросту.*

У ноч з 30 верасня на 1 кастрычніка Валерый Аляксеевіч прыйшоў у чакальню Віцебскага вакзала, каб адаспацца перад дорогаю, а з раніцы ехаць у сталіцу. Недасведчаны чытач можа запытацца: а чаго гэта такі вядомы чалавек начуе на вакзале, ён што, кватэры не мае? Правільна, не мае.

Яшчэ ў сваю бытнасць дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання спадар Шчукін выпісаўся з мінскай кватэры, з'ехаў у Полацк і пасяліўся ў інтэрнаце. Свой учынак дэпутат патлумачыў так. Звычайна дэпутат з правінцыі перасяляецца ў Мінск, і потым яго адтуль на радзіму кіем не загоніш. Але дэпутат, каб не адрывацца ад народа, мусіць жыць сярод сваіх абраннікаў. Паколькі ў парламент Шчукін трапіў ад Полацка, дык у Полацк і пераехаў. Згадзіцеся, учынак не тыповы.

Пасля таго, як спадар Шчукін шматкроць публічна засведчыў сваё стаўленне да існуючай улады, былога дэпутата пазбавілі прапіскі. Дарэчы, у нашай краіне няма закона, які б гэта дазваляў. Існуе юрыдычная працэдура прымусовага высялення, але на скасаванне прапіскі мусіць быць згода самога грамадзяніна. Тым не менш зараз Валерый Аляксеевіч мае ў пашпарце штамп, які робіць яго бамжом.

Без прапіскі ён нават не можа ўсяліцца ў гасцініцу. Вось і вымушаны немалады чалавек, капітан другога рангу Ціхаакіянскага флоту СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання начаваць на вакзале. Напачатку ён атабарыўся на полацкім вакзале: там лаўкі такія, што на іх можна улегчыся гарызантальна. Каб зрабіць нязручнасць упартаму апазіцыянеру, полацкія лаўкі перавезлі на віцебскі вакзал, а віцебскія (на іх можна толькі сядзець) — у Полацк. Адпаведна на віцебскі вакзал перабраўся і Валерый Аляксеевіч.

У ноч з 30 верасня на 1 кастрычніка Шчукін, разуўшыся, мірна спаў у вакзальнай чакальні. Яго пабудзілі міліцыянты. Спачатку праверылі дакументы, а потым нібы якому тэрарысту ўчынілі вобыск. Увесь вакзал са здзіўленнем і жахам назіраў, як сівабародага чалавека прыстойнай знешнасці, цвярозага босым вялі па халодным бетоне ў вакзальны пастарунак. Як высветлілася, прычынай "наезду" сталі друкаваныя матэрыялы, якія міліцыянты знайшлі ў партфелі Шчукіна. Яго ўжо затрымлівалі за распаўсюджанне ўлётак, у якіх ён, як грамадзянін, выказвае сваё стаўленне да маючых адбыцца выбараў і рэферэндуму.

Гэтым разам ў вакзальным пастарунку міліцыянты пільна чыталі матэрыялы па выбарах, якія спадар Шчукін меўся перадаць у АБСЕ, і ягоную перапіску з Генеральнай пракуратурай адносна дзеянняў мясцовай міліцыі, якія, на яго погляд, супярэчаць Канстытуцыі. З юрыдычнага пункту гледжання гэта было чарговае парушэнне ягоных канстытуцыйных правоў, у дадзеным выпадку — права на тайну перапіскі.



*Валерыю Шчукіну звыкла разбірацца з міліцыяй.*

Фота photo.bymedia.net

Я запытаў Валерыя Аляксеевіча, ці доўга яму яшчэ бамжаваць. Пакуль пры ўладзе будзе Лукашэнка, адказаў ён. І дадаў: "Я не ўвесь час жыву на вакзале. Я бомж, але не "біч". Іншы раз спыняюся ў знаёмых, каб прывесці сябе ў парадак... Кватэры, праўда, я вымушаны мяняць як пальчаткі. Дастаткова ўладам даведацца, што я ў кагосьці на кватэры свае рэчы пакінуў, як чалавека выклікаюць ў аддзел кадраў на працы і паведамляюць, што з ім могуць не падоўжыць кантракт..."

Спадар Шчукін — бомж у законе. У Віцебскім аддзеле унутраных спраў на транспарце ён афіцыйна мае рэгістрацыйны нумар — 758. Усяго, на думку Валерыя Аляксеевіча, у нашай краіне прытулку не маюць недзе 200 тысяч чалавек. Да такой высновы ён прыйшоў, пачытаўшы "паміж радкоў" вынікі апошняга перапісу насельніцтва. Ягоная барацьба за свае чалавечыя правы ўжо дае плён — Шчукін "дажаў" Генеральную пракуратуру. Ягоная скарга на незаконнае пазбаўленне прапіскі атрымала там станоўчы водгук: "есть предмет для разговора", сказалі яму. Але каб Генпракуратура афіцыйна занялася гэтай справай, трэба заплаціць 100 тысяч рублёў пошліны. Такіх грошай Шчукін, на жаль, не мае.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## «Ветэранам грошай на пуцёўкі даваць не трэба», — лічыць міністр аховы здароўя

Не на жарт устрывожыліся віцебскія ветэраны вайны і працы пасля візіту ў горад на Заходняй Дзвіне міністра аховы здароўя Беларусі Людмілы Пастаялка. Падчас правядзення ёю "прамой лініі" ў гарвыканкаме Людміла Андрэеўна прызналася, што асабіста яна — супраць выплаты кампенсацыі за нявыкарыстаныя санаторныя пуцёўкі. Міністр лічыць, што "хвораму лепш атрымліваць рэабілітацыю непасрэдна ў санаторыі, чымсьці траціць грошы не на здароўе". Гаворачы гэта, Пастаялка, відаць, забылася на тое, што кампенсацыю за пуцёўку ў нас дагэтуль атрымлівалі толькі ветэраны ды інваліды вайны, ды і тое не ў поўным аб'ёме, а толькі частку кошту той пуцёўкі.

— Спадарыня міністр вельмі высока ўзнялася над рэальным жыццём, — лічыць жыхар Віцебскага раёна, інвалід Вялікай Айчыннай вайны Леанід Васільевіч Янчанка, — бо яна, здаецца, не ведае, колькі грошай нам, старым людзям, даводзіцца пакідаць у аптэках ды іншых медыцынскіх установах. Каб хоць збольшага падтрымліваць сябе на нагах, мы аддаем не толькі ўсю пенсію да рубля, але і тую доўгачаканую кампенсацыю. А ў санаторый мы не едзем зусім не таму, што марнуем кампенсацыю на гарэлку, а таму, што не можам, калі б і дужа хацелі. Я, да прыкладу, ужо два гады не выходжу з хаты з-за хворых ног і моцнай стэнакардыі. Марыў, прызнаюся, адкласці некалькі тых кампенсацый, каб хапіла на грунтоўнае лячэнне ў сталіцы, ды вось цяпер мая мара так і застанецца пустой надзеяй, бо паколькі міністр супраць кампенсацыі, то, мяркую, так яно і будзе: адбяруць у нас гэтую адначасовую дапамогу.

Цікава яшчэ і тое, што падчас свайго знаходжання ў Віцебску Людміла Пастаялка паказала сябе прыхільніцай платнай медыцыны, заявіўшы, што санаторнае лячэнне ўвогуле павінна стаць платным. Ну вось і знойдзена выйсце з праблемы кампенсацый за пуцёўкі. Састарэлыя і хворыя інваліды раней нават бясплатныя пуцёўкі не скарыстоўвалі, а цяпер, за грошы ды пры сённяшніх вар'яцкіх цэнах, — тым больш ад санаторнага лячэння адмовяцца. А калі не будзе пуцёвак, не будзе і кампенсацыі. Потым не будзе і саміх ветэранаў. Вось калі ў Міністэрства аховы здароўя Беларусі знікнуць усе праблемы, а міністр, нарэшце, уздыхне з палёгкай...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## «ЛАД» і НТБ не будуць працаваць сёння і заўтра

З-за правядзення работ па мантажы абсталявання для тэлеканала "Мір" Белтэлерадыёкампанія спыняе працу тэлевізійных перадатчыкаў ТД-104 (тэлеканал "Лад") і ТД-106 (тэлеканал НТБ) Мінскага цэха УКХР.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Белтэлерадыёкампаніі, 5 і 6 кастрычніка ТД-106 (НТБ) будзе спынены з 9:00 да 16:25, а ТД-104 ("Лад") 5 кастрычніка з 9:03 да 17:01, 6 кастрычніка — з 9:02 да 17:08.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Мінскі «Лакаматыў» вяртаецца ў эліту

Мінскі "Лакаматыў" вяртаецца ў вышэйшую лігу футбольнага чэмпіянату, адкуль выбыў мінулай восенню. У суботу чыгуначнікі выйгралі ў родных сценах у слонімскага "Камунальніка" 3:1 і датэрмінова (за пяць тураў да фінішу) заваявалі пуцёўку ў вышэйшы дывізіён. Уладальнік другой пуцёўкі пакуль не вызначаны.

Становішча лідэраў: "Лакаматыў" — 65, "Ведрыч-97" (Рэчыца) — 54 (24 гульні), "Смаргонь" — 44, "ЗЛіН" (Гомель) — 41.

**Алег РАЯВЕЦ.**

## Упаў з моста... Разам з грузавіком

38-гадовы мужчына загінуў у выніку падзення з драўлянага моста, што не эксплуатуецца, у ваду аўтамабіля МАЗ, гружанага цукровымі буракамі.

Як паведаміла прэс-служба МНС, здарэнне адбылося ў вёсцы Вялікае Быкава Слуцкага раёна на мосце цераз Случ. Драўляныя канструкцыі не вытрымалі цяжару аўтамабіля, і МАЗ упаў у ваду. Выратавацца вадзіцелю не ўдалося.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Прычына выбуху — самаробнае выбуховае прыстасаванне?

Прычынай выбуху, што прагрымеў напярэдадні ў класе сярэдняй школы пасёлка Свіслач Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці стала неўстаноўленае выбуховае прыстасаванне, якое прынёс адзін з вучняў-шасцікласнікаў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, з усяго відаць, размова вядзецца пра самаробнае выбуховае прыстасаванне. Цяпер на месцы надзвычайнага здарэння працуе камісія, у складзе якой спецыялісты МНС, следчыя пракуратуры, іншыя эксперты.

Выбух, нагадаем, адбыўся ў класе, што размешчаны на другім паверсе трохпавярховага будынка. У памяшканні знаходзіліся вучні 6-га класа. Шасцёра з іх, а таксама трое вучняў 11-га класа атрымалі траўмы і былі дастаўлены ў тэрытарыяльнае медыцынскае аддзяленне Мар'інай Горкі. У іх дыягнаставалі аскепкавыя раненні мяккіх тканак. Будынак школы не пашкоджаны.

**Андрэй СЕРАДА.**

